www.nv-online.info

# Народная Воля

№97 (3940)

12 снежня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ:*

# «Па палітычных поглядах мы з жонкай — амаль паплечнікі»

*15 снежня першаму кіраўніку незалежнай Беларусі Станіславу ШУШКЕВІЧУ спаўняецца 80 гадоў. Са Станіславам Станіслававічам мы гутарым аб яго маладых гадах, сям'і, захапленнях. Без палітыкі...*

*...Наша гутарка адбываецца на кватэры юбіляра, у яго працоўным кабінеце. Стол, трэба сказаць, уражвае.*

*"Фінскі, яму ўжо гадоў 45, — тлумачыць мой суразмоўца. — Са стрыечным братам ішлі неяк па горадзе і ўбачылі ў продажы набор мэблі для кабінета з гэтым сталом. Камплект дарагі — 1200 рублёў каштаваў. Кажу: "Купіў бы, ды грошай няма". А брат мне: "Я якраз прэмію атрымаў, магу пазычыць". Адразу ж і набылі. Было ў наборы і крэсла, але яно сапсавалася, і я адвёз яго на лецішча, а гэта, на якім сяджу, — падарунак пляменніка".*

## Карані

— **Вы гаспадарлівы чалавек?** — цікаўлюся ў Станіслава Станіслававіча.

— Гаспадарлівы, але зараз, шчыра кажучы, з мяне дрэнны гаспадар, бо здараюцца праблемы з сэрцам, і сякерай, як раней, махаць не здольны. Хутка стамляюся, хоць яшчэ зусім нядаўна наогул не разумеў, што такое стомленасць. Спадзяюся выправіцца.

— **У бацькоў вялікая гаспадарка была?**

— Дзед Пётр (па бацькавай лініі) добрую меў. Ён быў і пасечнікам, і садоўнікам, усё ў яго было дагледжана — і жывёла, і агарод. Нават падчас вайны ўласнага каня меў. Здарылася так, што вайскоўцы, калі адступалі, вырашылі прыстрэліць чырвонаармейскую кабылу, бо яна зламала нагу. Дзед папрасіў не рабіць гэтага і выхадзіў жывёлу са сваім сябрам-ветэрынарам. Кабыла Машка кульгала, але ж усю сялянскую працу выконвала. Памятаю, што летам 1942 года яе "ганяў у начное" — пасвіў. Дзед па матчынай лініі — Людвіг — з бабуляй жылі ў Мінску. На месцы цяперашняй філармоніі стаяла іх вясковая хатка. Меліся каза, парсючок... Калі мне было 2 гады, дзед Людвіг памёр, а бацьку забралі як "ворага народа". У сям'і заставаліся адны жанчыны, а я стаў, так бы мовіць, за гаспадара. Поркаўся ў агародзе, саджалі бульбу на зіму, цыбулю... І, памятаю, было вельмі шмат маліны. Але галоўнымі гаспадарамі, натуральна, заставаліся бабуля і маці. Калі гарэў Мінск і на нас ішло полымя, мы былі перакананы, што хата згарыць. Сабралі коз і па Барысаўскім тракце пайшлі ўцякаць. А парсюка, каб той не згарэў, проста выпусцілі на волю з хлява. Яго ж на вяроўцы не пацягнеш. Але вецер перамяніўся, і наша хата ўцалела. Вярнуліся, а парсючка няма. Бабка знайшла яго за паўкіламетра, па голасе пазнала — наш.

— **А бацьку афіцыйна за што забралі?**

— Быццам бы за "нацдэмаўшчыну". Маці і бацька займаліся пісьменніцкай дзейнасцю, былі членамі Саюза пісьменнікаў СССР. Праўда, пісьменніцкі білет бацькі канфіскавалі пры арышце напрыканцы 1936 года, калі той быў асуджаны як "вораг народа". У 1954 годзе ён быў цалкам рэабілітаваны і ў 1956 годзе вярнуўся з Сібіры ў Мінск.



## «Сэрца — яно не жалезнае...»

— **Колькі дзяцей было ў вашай сям'і?**

— У мяне шмат стрыечных братоў і сясцёр, бо бабулі як з боку маці, так і з боку бацькі мелі адпаведна 12 і 8 дзяцей. У Сібіры ў бацькі стварылася новая сям'я, у маці тут было сваё жыццё. Самымі маімі вернымі сябрамі па жыцці былі сястра Ірына і стрыечны брат Віктар Більдзюкевіч. І тут такая сумная гісторыя... Віктар быў вельмі таленавіты і працавіты чалавек і ў савецкі час нават стаў міністрам прамысловасці будаўнічых матэрыялаў БССР. І вось у снежні 2012 года ў Маскве ў "Прэзідэнт-гатэлі" праходзіць прэзентацыя маёй кнігі. Тэлефануе сын Віктара і кажа: "Бацька памёр". Вяртаюся ў Мінск, 22 снежня — пахаванне. Сабраліся ўсе блізкія, родныя і... за жалобным сталом памірае сястра Ірына. Можаце сабе ўявіць сітуацыю! У студзені гэтага года я адчуў сябе дрэнна, звярнуўся да ўрачоў. Мяне адразу ж — у стацыянар. Праблемы з сэрцам. Дактары сказалі: "У вас быў нейкі шалёны стрэс, але вы своечасова не звярнуліся да медыкаў". І на самай справе, пасля смерці брата і сястры амаль год ні да кога не звяртаўся. А сэрца, на якое я ніколі не скардзіўся, аказалася не жалезным. Так зараз і патрапіў, як я кажу, у лагер нягеглых, якія хутка стамляюцца ад працы. Праўда, калі паклалі ў стацыянар, то ў хуткім часе задаволілі маю просьбу — выпісалі, бо трэба было ехаць з лекцыямі ў Злучаныя Штаты.

— **А ў маладыя гады на здароўе не скардзіліся?**

— Я сур'ёзна не скардзіўся на здароўе да студзеня гэтага года. Хірургі і тэрапеўты хутка спраўляліся з маімі прастудамі, апендыцытам, пераломам пальца на назе і нават запаленнем лёгкіх, але ж ніколі не адчуваў сябе кволым. Спадзяюся і цяпер выраўнавацца.

— **Спортам раней займаліся?**

— Люблю з гэтай нагоды словы Чэрчыля: "Усё, чаго дабіўся, даў мне спорт. Бо я ім ніколі не займаўся". Практычна так і ў мяне. Я, натуральна, "круціў" веласіпед (па 70 кіламетраў кожны тыдзень), наведваў секцыю фехтавання, удзельнічаў у матацыклетных ралі (і нават заняў першае месца ва ўніверсітэце ў 1952 годзе), але заўсёды памятаў, што гэта не я створаны для спорту, а спорт існуе для такіх, як я. У мяне, дарэчы, зараз канфліктная сітуацыя з жонкай. На яе думку, я павінен рабіць зарадку, а я перакананы, што гэта не спалучаецца з маім стылем жыцця і працы.

## «Калі станеш гуманітарыем, паўторыш лёс бацькі»

— **І які ён — гэты стыль?**

— Своеасаблівы. Калі я ў добрай форме, то ўстаю каля пяці гадзін раніцы. І ўсё, што зраблю на камп'ютары альбо ручкай зранку, — тое зраблю. Астатні час — "вольны", бо праца ўдзень ідзе непараўнальна марудней і цяжэй.

— **Станіслаў Станіслававіч, недзе давялося прачытаць, што ў школе вучоба вам давалася лёгка...**

— Пасля вайны я пайшоў у школу адразу ў чацвёрты клас і закончыў яго з пахвальнай граматай. Там была цудоўная настаўніца Таццяна Канстанцінаўна Мальцава. І я не ведаю, што мне больш падабалася — вучыцца ўвогуле ці мая настаўніца. Чуйны і вельмі ветлівы чалавек! У нашым класе і думкі не было, каб парушыць тое, што яна раіла. У яе ніколі не было асуджэння, пакарання... А вось калі я прыйшоў у 5-ы клас, мне больш падабалася ўцякаць з урокаў у кіно, чым на іх прысутнічаць. Я пачаў атрымліваць тройкі, а падчас і двойкі. І тут мяне выратаваў цуд! Таму што напрыканцы сакавіка 1946 года мяне запрасіла да сябе рэдактар газеты "Пионер Белоруссии" Таццяна Феакцістаўна Мазурава і сказала: "У цябе, спадзяюся, з вучобай усё па-ранейшаму, як і ў чацвёртым класе?" І я схлусіў: "Па-ранейшаму". — "Мы вырашылі прэміраваць цябе пуцёўкай у "Артэк" за тваю карэспандэнцкую дзейнасць". А мяне сапраўды заахвоціў адзін з супрацоўнікаў газеты дасылаць розныя нататкі. У школе "Артэка" вучыўся вельмі старанна, і, калі вярнуўся, прывёз даведку, што закончыў пяты клас толькі на "выдатна" і "добра". З таго часу троек у мяне больш не было ніколі. Але, шчыра скажу, была ў мяне і зайздрасць. У аднаго з маіх аднакласнікаў — Абрама Затурэнскага (ён зараз жыве ў Дэнверы) — бацька быў матэматыкам. А ў школе ў нас выкладаў таксама цудоўны настаўнік матэматыкі Маісей Самуілавіч Эльперын, які даваў вельмі няпростыя хатнія заданні. Праўда, не дакараў мяне за тое, што некаторыя задачы я не мог рашыць. Мяне брала зло, што Абрам спраўляўся з усімі задачамі, а я — не! Не было ў нашай сям'і матэматыкаў, не было ў каго спытацца, атрымаць кансультацыю.

— **Вам пашчасціла з выкладчыкамі?**

— Яшчэ як! За ўсё маё жыццё была толькі адна настаўніца, якая мяне не любіла, а я яе цярпець не мог. І, калі паўстала пытанне аб тым, што не пашкодзіць атрымаць медаль, то якраз яна мне і паставіла чацвёрку па геаграфіі за 9-ы клас. Праўда, у дзясятым класе я пераздаў гэты экзамен на пяць, і школу закончыў з медалём.

— **Напэўна, будучы доктар фізіка-матэматычных навук найбольш за ўсё любіў фізіку?**

— Не зусім так. Маці, бацька і амаль усе адукаваныя родныя і сваякі былі гуманітарыямі. Але маці катэгарычна настойвала, каб я ні ў якім разе не пайшоў па гэтым шляху. Казала: "З тваім характарам паўторыш лёс бацькі". Я цікавіўся фізікай, зманціраваў нават радыёвузел у школе, па начах глядзеў у тэлескоп...

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

*Ідзе вялікі перадкалядны пост*

*Можна адмовіцца ад каўбасы, сала, гарэлкі...*

*Але нельга адмовіцца ад «Народнай Волі» — духоўнага наталення.*

*Падпісаліся самі — зрабіце падарунак бацькам, сваякам, сябрам: аформіце ім падпіску на "Народную Волю" ў якасці навагодняга прэзента. Будуць чытаць кожны нумар і ўзгадваць Вас добрым словам.*

*Пашырым чытацкую аўдыторыю "Народнай Волі" ў 2015 годзе!*

БЮДЖЭТ

## Цяжкі будзе год

Панабіралі крэдытаў — хутка будзем працаваць толькі на тое, каб іх аддаць. Такія папярэджанні эканамістаў гучалі ўжо даўно. Час расплаты настае...

Учора Палата прадстаўнікоў у першым чытанні прыняла бюджэт на 2015 год. На абслугоўванне дзяржаўнага доўгу прадугледжана проста рэкордная сума — 13,6 трыльёна беларускіх рублёў. Гэта амаль у 1,7 раза болей, чым закладзена ў дзяржаўнай казне на нацыянальную абарону, у два разы болей, чым будуць выдаткі на ахову здароўя, у 45 разоў болей, чым дзяржава выдзеліць школам...

Як сведчыць праект бюджэту, планы беларускіх улад на год прэзідэнцкіх выбараў зусім не аграмадныя, а, наадварот, вельмі і вельмі сціплыя. Так, даходы бюджэту разлічаны, зыходзячы з плана павелічэння ВУП усяго на 0,5%, зніжэння экспарту на 3,6%, гадавой інфляцыі на ўзроўні 12% і сярэднегадавога курсу долара ў памеры 11.400 беларускіх рублёў.

### ДАРЭЧЫ

Каб стачыць канцы і павялічыць даходную частку бюджэту, дзяржава вымушана ісці на непапулярныя меры. Гэта:

— рост стаўкі падаходнага падатку — з 12% да 13%,

— павелічэнне стаўкі падатку на прыбытак для банкаў і страхавых арганізацый — з 18% да 25%,

— дадатковае адабранне ў бюджэт (звыш мінімальнай абавязковай часткі двывідэндаў на дзяржаўную долю ў прадпрыемствах з рэнтабельнасцю вышэй за 30%) часткі прыбытку ў памеры 30%. Для "Беларуськалія" гэта будзе 55%.

ТЫМ ЧАСАМ

## Віламі па вадзе пісана

Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў патлумачыў, як беларускі бюджэт залежыць ад сусветных цэн на нафту.

*"Калі кошт нафты будзе не ніжэй 80 долараў за барэль, такі ўзровень і для нашай эканомікі, і для Расіі будзе цалкам камфортны,* — сказаў Снапкоў. — *Зніжэнне кошту ніжэй гэтага ўзроўню — непажаданы сцэнарый. Калі гаварыць пра ўплыў гэтага фактару на нашу краіну, то зніжэнне коштаў нафты на 1 долар азначае для нас памяншэнне на 20 мільёнаў долараў сальда ў гандлі нафтай і нафтапрадуктамі ў гадавым вымярэнні".*

Беларускі бюджэт на 2015 год складзены з разліку, што сярэднегадавы кошт барэля нафты будзе складаць 83 долары. Прынамсі, так заявіў міністр фінансаў Уладзімір Амарын. Пры гэтым ён адзначыў: *"Я не ведаю такога чалавека, які можа сказаць, якой будзе цана нафты ў наступным годзе".*

Між тым учора кошт барэля нафты ўжо быў ніжэй за 64 долары. Прагнозы сапраўды рабіць цяжка. Агенцтва "Рэйтар" нават прыбегла да кансэнсус-прагнозу, апытаўшы больш за трыццаць вядомых аналітыкаў. Атрымалася — 82,5 долара за барэль. Беларусы, напэўна, арыентаваліся на гэты прагноз.

Але ёсць і іншыя — і 75 долараў за барэль, і 70... Пасля сустрэчы ў Вене ў рамках картэля ОПЕК, дзе вырашалася пытанне па аб'ёмах сусветнай здабычы нафты ў 2015 годзе, прадстаўнікі іранскага Міністэрства нафты заявілі, што калі паразуменне не будзе дасягнута, то кошт нафты можа ўпасці да 40 долараў за барэль.

SOS!

## Мы — васалы

*Чыстасардэчнае прызнанне зрабіў міністр эканомікі* ***Мікалай Снапкоў.***

*"Уплыў падзей у расійскай эканоміцы на беларускую — бясспрэчны. На дадзены момант наш валавы ўнутраны прадукт прама ці ўскосна на палову залежыць ад Расіі",* — сказаў міністр.

Уявіце толькі: на палову!!! Гэта ж прызнанне ў васальнай залежнасці нашай краіны ад іншай дзяржавы!

### СКАЗАНО!

**Сергей КАЛЯКИН, председатель Объединенной партии левых "Справедливый мир":**

*— Существующая система краткосрочных трудовых контрактов носит рабский характер, угнетает и унижает трудящихся.*

НАДВОР'Е

## Гродна і Брэст закране «шторм стагоддзя»

*У краіне на пятніцу і суботу абвешчаны аранжавы ўзровень небяспекі.*

Прычына — цыклон ALEXANDRA, які цяпер бушуе над Скандынавіяй. Потым ён пойдзе на расійскі Санкт-Пецярбург. Хвост шторму закране і Беларусь. Асабліва некамфортным надвор'е будзе ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях.

*"У пятніцу і асабліва ў суботу чакаецца вельмі некамфортнае надвор'е. Парывы ветру да 17 метраў у секунду, галалёдзіца, мокры снег і дождж. Цыклон ідзе да нас з Брытаніі, там яго ўжо назвалі штормам стагоддзя. Вецер да 130 метраў у секунду зрывае дахі, і там абвешчаны аранжавы ўзровень небяспекі",* — паведаміў галоўны сіноптык Белгідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў**.

Свайго апагею шторм дасягне ў суботу — чакаюцца парывы ветра да 20 метраў у секунду. Тэмпература будзе 0...+2 градусы, снег і дождж. Сіноптыкі ўжо зрабілі папярэджанне ўсім службам і рэкамендуюць аўтамабілістам устрымацца ад паездак на машынах.

У нядзелю вецер пачне сціхаць. Днём месцамі пройдзе мокры снег і дождж. Ноччу -4...+1, днём -2...+3.

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

# Едем в Польшу...

Александр Лукашенко поддержал идею создания в Минске коммунальной торговой сети. Коротко эта идея звучит так: в столице появятся 42 государственных магазина, где будет качественный разнообразный товар по ценам, ниже, чем в гипермаркетах и иных крупных торговых сетях. *"Это создаст конкуренцию на понижение цен",* — заключил глава государства.

Впрочем, так всегда говорят, когда в Беларуси открывается какая-нибудь новая сеть магазинов. Вот только цены не идут на понижение.

Так совпало, что, когда в эфире белорусских каналов Александр Лукашенко в очередной раз рассказывал, как надо бороться с ценами в Беларуси, на польской границе томились в очереди мои близкие родственники. Возвращались из Белостока, куда ездили на очередные закупы. Летом поменяли квартиру, делают ремонт в новостройке. Все, что можно, везут из Польши: кухонную бытовую технику, телевизор, шторы, кое-какую мебель. И всякий раз, когда планируют поездку, берут на работе отгулы или дни в счет отпуска, потому что за день обернуться нереально из-за многочасовых очередей на границе. Белорусы штурмуют рынки и магазины Белостока, как и 5, 10,15 лет назад.

В общем, годы идут, а на белорусско-польской границе ничего не меняется.

Когда белорусы массово бросились за товаром в Польшу в начале 90-х годов прошлого века, объяснялось это просто: небезболезненно распалась большая страна, мы учились жить и выживать в новых реалиях. Но вот уже 23 года нашей независимой и, как нам говорят, стабильной, процветающей, социально ориентированной стране. Но за товарами мы как ездили в Польшу, так и ездим! Там по-прежнему дешевле, чем здесь.

Моя родственница рассказывает о невероятной экономии семейного бюджета от таких поездок. Счет идет не на сотни, на тысячи долларов.

Вот только несколько примеров разницы в цене на аналогичные товары в Польше и Беларуси. Стеклянный стол для кухни фирмы "Сигнал" на наших рынках стоит 450 долларов, точно такой же в Польше — 200. Стул кухонный, если покупать здесь, обойдется в 75 долларов, если там — в 30. Цена вытяжки "Акро" в Беларуси — 450 долларов, в Польше — 265. Тот, кто в теме, может возразить: мол, это товары, произведенные в Польше. Но ведь и итальянское, и французское, и даже российское в Польше дешевле, чем в Беларуси. Опять-таки конкретные примеры от моей родственницы.

Мойка немецкой фирмы Franke в Беларуси стоит 320 долларов, аналогичная в Польше — 192. Духовой шкаф Whirlpool 320 долларов в Беларуси, 192 — в Польше. И т.д. и т.п.

Причем в каждой поездке товарная корзинка дополняется более дешевыми и качественными продуктами, косметикой, стиральными порошками и даже туалетной бумагой (а почему не купить, если практически за те деньги, которые здесь потратишь на упаковку серой полупрозрачной отечественной бумажки, там купишь упаковку двухслойной ароматизированной?).

Стоит ли тогда удивляться очередям на границе?

Конечно, вереницы машин с белорусскими номерами по обе стороны границы не могут не волновать наше руководство. И волнуют. Да еще как! Но беспокоит их, как мне кажется, не суть проблемы (как сделать так, чтобы цены в наших магазинах не отпугивали покупателя), а ее последствия. Помните, как в сентябре прошлого года Александр Лукашенко сокрушался на всю страну: 3 млрд долларов вывезли белорусы из страны, потратили их в Евросоюзе на "*барахло всякое*", "*у них развивается торговля, производство, а мы барахтаемся здесь, как дураки".*

Кто-нибудь сделал выводы? Что-то путное, кроме предложения ввести стодолларовую пошлину на выезд за границу, предложил? Нет. Хотя... я ошибаюсь. Летом этого года наши таможенники придумали новые методические рекомендации, и теперь в год ввезти в Беларусь можно только один компьютер, один телевизор, одну кухонную плиту и т.д. Однако, если честно, не это возмущает. Если покупаешь для себя, а не на продажу, то две стиральные машины в год и не нужны. Но таможенники в своих рекомендациях указали, что провозить через границу можно товаров весом не более 50 килограммов.

Остановили ли эти нововведения белорусов? Нет. Создали лишь дополнительные неудобства. Потому что ездить стали чаще, выросли очереди, ужесточились таможенные досмотры. А на границе появились предприимчивые поляки, которые за 100 злотых организовывают белорусам "зеленый коридор".

К слову, в 2010 году между Польшей и Беларусью был подписан договор о малом приграничье. Польша ратифицировала документ сразу же, в 2010-м, а ответных шагов со стороны официального Минска нет до сих пор. Не потому ли белорусские власти боятся безвизового въезда в Польшу для жителей приграничья, что магазины Гродно, Бреста и других населенных пунктов, входящих в эту 50-километровую зону, просто опустеют?!

...В эти дни Александр Лукашенко не только поддержал идею создания в Минске коммунальной торговой сети, но и потребовал не допустить роста цен перед новогодними праздниками. Буквально через день Министерство торговли своим распоряжением "заморозило" цены на потребительские товары до 15 января. Хотя, на мой взгляд, надо бы направить все усилия на то, чтобы их "разморозить" — чтобы они "подтаяли" и снизились.

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 СНЕЖНЯ 2014 г.

ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ:*

# «Па палітычных поглядах мы з жонкай — амаль паплечнікі»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

## "Теорему Пифагора все понимают, а вот Гомера?!"

— Усё гэта мне падабалася, — **працягвае Станіслаў Станіслававіч.** — Таму і вырашыў з гэтым звязаць сваю прафесію, хоць і тут таксама без прыгод не абышлося. Зацікавіўся тэлебачаннем. Тады мне здавалася, што ў тэхніцы нічога лепшага ў свеце і быць не можа. Паехаў у Маскву паступаць у Інстытут сувязі. Знайшоў яго, пачаў шукаць прыёмную камісію. І па дарозе ў калідоры адчуў такі смурод, што хоць нос заціскай. "Не-е, — падумаў тады, — у такім інстытуце я вучыцца ніколі не буду". Развярнуўся — і назад, у Мінск, дзе і паступіў на фізічны факультэт. Праўда, нават з медалём прынялі не адразу. Я ж быў сынам "ворага народа". Нават падчас студэнцтва рэктар Іван Савіч Чымбург выкрасліў мяне са спіса ўдзельнікаў мотапрабегу Мінск—Кіеў, хоць я першае месца ў ралі заняў. Ажыў я толькі ў 1953 годзе, калі рэктарам стаў Канстанцін Ігнатавіч Лукашоў. Для мяне гэта было свята! Па-першае, на трэцім курсе рэктар (!) не пусціў мяне разам з аднакурснікамі выбіраць бульбу. Сказаў, каб я займаўся ўніверсітэцкім радыёвузлом. Такі быў гэты чалавек — далікатны, інтэлігентны, сапраўдны вучоны... Пазней мяне ўключылі ў склад дэлегацыі ў Кіеў, жыццё наладжвалася. Праўда, калі я сустрэў сваю выкладчыцу рускай мовы Марыю Іосіфаўну Марцуляніс і яна даведалася, што я паступіў на фізмат, яна ледзь прытомнасць не страціла. Сказала: "У вас же нормальное мышление! Неужели вы не понимаете, что на этот факультет идут только примитивы? Теорему Пифагора все понимают, а вот Гомера?!"

**— Філасофскі падыход...**

— О, гэта была своеасаблівая настаўніца! Яна не шкадавала ні сіл, ні часу, ні свайго здароўя, каб мы не былі "косноязычными" і валодалі добрай рускай мовай. Аднойчы задала нам вывучыць да наступных заняткаў па рускай мове верш Лермантава "На смерць паэта". А гэтыя заняткі былі на наступны дзень. Я вывучыў верш за ноч. Адзін з класа. Атрымаў пяцёрку, астатнія аднакласнікі — двойкі-тройкі. І пасля ўрока клас мяне нават палакалашмаціў. Да гэтага часу ўспамінаюць, калі сустракаемся. І ўдакладняюць: "Мы цябе пабілі нават не за тое, што ты адзін з класа вывучыў верш, а за тое, што вывучыў яшчэ і эпіграф, які ў хрэстаматыях нідзе не надрукаваны..."

Гэта былі цудоўныя гады.

**— А якія ў вас успаміны ад студэнцтва?**

— Самы цікавы час у жыцці. У мяне ў альбомах у асноўным — студэнцка-аспіранцкія фотаздымкі. Набыў тады сабе фотаапарат "Зоркі", навучыўся здымаць, друкаваў карткі. Цікава было.

**— Стыпендыю атрымлівалі?**

— Калі б не атрымліваў стыпендыю, то не змог бы вучыцца. Такое пытанне нават не паўставала, бо ў сям'і было няпроста з грашыма. Маці, якая, да слова, па дыпломе была выкладчыцай рускай, беларускай і польскай мовы, паклала здароўе, каб нас з сястрой выхаваць. Каб неяк болей зарабіць, працавала ў дзённай, вячэрняй і пазменнай школах. Натуральна, стыпендыю я нёс дадому, а ўсе хатнія грошы ляжалі ў такім месцы, пра якое ведалі і бабка, і сястра, і маці, і я. Але маці такім чынам дэманстравала — вось наш бюджэт, на які можам разлічваць. Памятаю, была цэлая эпапея, калі куплялі халадзільнік (дарэчы, першы мінскай вытворчасці). Збіралі грошы на яго, як зараз на шыкоўны лімузін збіраюць. Праўда, яшчэ студэнтам я добра зарабляў. Працаваў лабарантам у школе, нярэдка замяняў выкладчыцу фізікі. Затым са школы ва ўніверсітэт нават даслалі ліст, каб размеркавалі туды.

**— Нейкія творчыя здольнасці яшчэ былі ў вас?**

— Я імкнуся не ўжываць слова "творчасць", бо сёння і жук, і жаба, якія, напрыклад, прымітыўна спяваюць і не ў стане авалодаць вакальным рамяством, называюць сябе людзьмі творчымі. Мне больш падабаецца падыход Іагана Себасцьяна Баха, які не называў сябе творцам, а лічыў, што займаецца рамесніцтвам: проста аркеструе музыку сапраўднага творцы — Антоніа Вівальдзі.

Што да мяне, то ва ўніверсітэце я іграў у аркестры народных інструментаў на чатырохструннай домры, і гэта была вельмі зручная "грамадская нагрузка". Ніхто цябе больш не абцяжарваў рознымі дадатковымі абавязкамі. Па мерках ВНУ мы з маім сябрам-аднакурснікам Уладзімірам Казушчыкам ігралі добра, па прафесійных — былі звычайнымі аматарамі. Дарэчы, зараз у кампаніі магу падыграць на піяніна аматарам спеваў. У студэнцкія ж гады ў піянерлагеры ў Каралёвым Стане працаваў акардэаністам і нават іграў гімн Савецкага Саюза, калі падымалі сцяг. Мне падабаліся мелодыі савецкіх песень, а вось да танцаў ніколі не цягнула.



З жонкай Ірынай.



1946 год. «Артэк». Сустрэча з маршалам Будзённым.

## Жаніцьба на выдатніцы

**— Станіслаў Станіслававіч, а сямейным жыццём вы ці задаволены?**

— А чаго ж быць незадаволеным, калі са сваёй жонкай Ірынай (гэта ў мяне другі шлюб) мы жывём разам 38 гадоў?! Да слова, яна не любіць узгадваць гэтую лічбу, бо лічыць сябе вельмі маладой.



Станіславу Шушкевічу —2 гады.

**— Вы пазнаёміліся з ёй ва ўніверсітэце?**

— Маёй студэнткай была, вельмі добра вучылася. Я лічыў (і лічу!) сваім абавязкам быць абсалютна аб'ектыўным пры ацэнцы ведаў студэнтаў і паставіў у ведамасць гэтай, як пасля высветлілася, выдатніцы першую ў яе студэнцкім жыцці чацвёрку...

*"Трэба ж было яму нейкім чынам звярнуць на сябе ўвагу",* — падключаецца да размовы жонка Станіслава Станіслававіча.

— ...Яна за мяне на 18 гадоў маладзейшая, але з гэтай нагоды ніякіх непаразуменняў у нас не было і, спадзяюся, не будзе. Хоць, трэба сказаць, што жаночы розум — гэта асобная праблема.

**— Калегі скоса не глядзелі, што студэнтку "акруцілі"?**

— Не, у нас была высокаінтэлектуальная кафедра. Калегі былі сведкамі майго першага шлюбу, разводу... Усё адбывалася прыстойна. Дарэчы, зараз добрая сяброўка Ірыны — мая дачка, якой споўнілася 12 гадоў, калі мы ажаніліся. Ірыне было тады 23.

**— Дапамагае ў жыцці жончына падтрымка?**

— Вельмі няпростае пытанне... Жонка пераканана, што яна ўсё робіць лепш за астатніх. У мяне крыху іншы погляд. Але ж вялікіх спрэчак у нас няма.

**— Палітычныя погляды супадаюць?**

— Я вельмі паважаю прэзідэнта Украіны Парашэнку, а Ірына яго чамусьці не любіць. Кажа, што чалавек, які стварыў кандытарскую імперыю, не можа быць нармальным кіраўніком краіны. У іншых палітычных справах мы — паплечнікі.

**— Дзеці вашы чым займаюцца?**

— Дачка Алёна закончыла кансерваторыю. Сын Станіслаў па адукацыі эканаміст, займаецца ў Беларусі бізнесам. Часам удала, часам — не вельмі, але займаецца ўпарта. Калі быў студэнтам, з'ездзіў працаваць афіцыянтам на 3 месяцы ў Штаты. Калі прыехаў, сказаў: "Я і дома зараблю не горш, чым там". Такім чынам, ніхто па маіх слядах не пайшоў. У мяне адна унучка — Стася, дачка Алёны. Вельмі захаплялася біялогіяй, была пераможцай Рэспубліканскай алімпіяды, заняла 2-е месца на Міжнароднай алімпіядзе біёлагаў-школьнікаў у Стамбуле, першае — на алімпіядзе ў Сіэтле. Лукашэнка і не здагадваўся, каго не раз узнагароджваў ганаровымі граматамі. Напэўна, не ведаў, што гэта мая ўнучка, бо ў яе іншае прозвішча. Зараз Стася вучыцца ў Варшаўскім універсітэце.

## "Я не страціў умення вучыцца"

**— Акрамя таго, што вы шмат пішаце, чытаеце лекцыі, чым яшчэ захапляецеся?**

— Ведаеце, я не страціў умення вучыцца. Часамі, калі рыхтуюся да лекцый, раблю для сябе адкрыцці, бо не маю сістэмнай адукацыі ў галіне тых гуманітарных навук, якія мне сёння вельмі патрэбны. Напрыклад, толькі некалькі дзён таму даведаўся, што, згодна з перапісам 1897 года, у Крыме ўкраінцаў было ў паўтара раза больш, чым рускіх. Цешуся, што і Пуцін (гуманітарый па адукацыі!) пра гэта не ведае, як і пра тое, якое дачыненне меў князь Уладзімір да Херсанеса. А нам сёння кажуць пра "исконно русский Крым".

**— Ці любіце вы бываць на сваім лецішчы?**

— Люблю. Усё на лецішчы (акрамя гаража) я пабудаваў сам з жонкай і сябрамі. Многае патрабуе ўдасканалення, таму я заўсёды там займаюся будаўнічымі справамі і майструю тое, што мне падабаецца. А жонка займаецца ўсім астатнім. Гуркоў, памідораў, перцаў хапае. Праўда, кажуць, што на нашай плошчы ў пяць сотак можна было б у тры разы большы ўраджай збіраць, але як умеем, так і вырошчваем. Жонка ні пад што іншае не аддасць зямлю, якая адведзена ёю пад кветкі.

**— А паляваннем, рыбалкай не захапляецеся?**

— Не цягне мяне да такіх забаў. Адзін раз качку падстрэліў — да гэтага часу мне яе шкада. Я больш люблю майстраваць, а таму маю шыкоўныя прылады і электраінструмент. Многае прывёз з ЗША і Канады ў мінулым тысячагоддзі, калі ў нас тут добры інструмент быў дарагі і не вельмі якасны. Тое-сёе ў мяне сцягнулі, але я новы купіў.

**— Станіслаў Станіслававіч, ці любіце вы юбілеі? 80-годдзе, напэўна ж, будзеце адзначаць?**

— Увогуле, я больш за ўсё люблю прымаць гасцей дома, але да юбілеяў ды розных публічных імпрэзаў стаўлюся не вельмі. Я — хатняе стварэнне. Хоць, безумоўна, родныя і блізкія не зразумеюць, калі не запрашу менавіта на святкаванне.

**— Сёння вы задаволены тым, як прайшло ваша жыццё?**

— Калі з радыёаматара я стаў доктарам навук і членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук у галіне радыёфізікі, то, відавочна, што чагосьці дасягнуў у навуцы. Калі мяне і сёння запрашаюць з лекцыямі ў найвядомейшыя ўніверсітэты свету, то лагічна думаць, што я і сёння не зусім ардынарны прафесар і застаюся патрэбным. Калі з "сына ворага народа" стаў першай асобай дзяржавы, значыцца, нешта ўсё-такі ўдалося і ў палітыцы. І, нарэшце, калі напісаная мною кніжка амаль у 500 старонак надрукавана на беларускай, рускай і польскай мовах (а зараз рыхтуецца да выдання на англійскай мове ў ЗША), то не выключана, што і гэта камусьці патрэбна. І я ганаруся ўсім гэтым.

Няма падстаў лічыць, што ў мяне мог быць лепшы жыццёвы шлях!..

**Алесь СІВЫ.**
**Фота Віктара ГІЛІЦКАГА і з сямейнага архіва сям'і Шушкевічаў.**

---

ДА ВЕДАМА

## *Транспартны падатак павялічваецца*

*З 1 студзеня ў Беларусі будзе дзейнічаць новы Падатковы кодэкс — са зменамі і дапаўненнямі. Адно з такіх змяненняў тычыцца стаўкі транспартнага падатку — яна павялічана на 1—2 базавыя велічыні.*

*Колькі будзем плаціць?*

| Кошт дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху фізічным асобам | Было | Стала |
|---|---|---|
| **Легкавы аўтамабіль** | | |
| які мае дазволеную максімальную масу не больш за 1,5 тоны | 3 базавыя велічыні (450 тыс). | 3 базавыя велічыні (450 тыс.) |
| які мае дазволеную максімальную масу больш за 1,5 тоны і не больш за 2 тоны | 5 (750 тыс.) | 6 ( 900 тыс.) |
| які мае дазволеную максімальную масу больш за 2 тоны і не больш за 3 тоны | 7 (1,05 млн) | 8 (1,2 млн) |
| які мае дазволеную максімальную масу больш за 3 тоны | 10 (1,5 млн) | 11 (1,65 млн) |
| прычэп да легкавога аўтамабіля | | |
| — не больш за 0,75 тоны | 1 (150 тыс.) | 2 (300 тыс.) |
| — больш за 0,75 тоны | — | 11 (1.65 млн) |
| — прычэп-дача (караван) | — | 5 (750 тыс.) |
| **Грузавы аўтамабіль** | | |
| які мае дазволеную максімальную масу не больш за 2,5 тоны | 8 (1,2 млн) | 8 (1,2 млн) |
| які мае дазволеную максімальную масу не больш за 3,5 тоны | 15 (2,25 млн) | 17 (2,55 млн) |
| які мае дазволеную максімальную масу больш за 3,5 тоны і не больш за 12 тон | 20 (3 млн) | 22 (3,3 млн) |
| які мае дазволеную максімальную масу больш за 12 тон | 25 (3,75 млн.) | 25 (3,75 млн) |
| прычэп і паўпрычэп да грузавога аўтамабіля | 10 (1,5 млн) | 0 (1, 5 млн) |
| **Іншае** | | |
| аўтобус ад 21 да 40 пасадачных месцаў | 15 (2,25 млн) | 17 (2,55млн) |
| матацыкл і матаролер | 1 (150 тыс.) | 2 ( 300 тыс.) |

ЧУЛІ?

## *«Мінімалка» павялічыцца*

*1 студзеня 2015 года месячная мінімальная зарплата ў Беларусі складзе 2,1 мільёна рублёў. Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Саўміна №1151 ад 9 снежня.*

Такім чынам, з новага года "мінімалка" вырасце на 258,6 тысячы рублёў. Як вядома, з улікам індэксацыі з кастрычніка гэтага года мінімальная зарплата ў Беларусі складае 1,841 мільёна.

ЛІЧБА ДНЯ

## *Як пражыць без грошай?*

*212 беларускіх прадпрыемстваў маюць запазычанасці па заробках. 36,3 тысячы работнікаў не атрымліваюць свой заробак своечасова.*

Такія звесткі па стане на 1 снежня падае Нацыянальны статыстычны камітэт. Сума пратэрмінаванай запазычанасці склала 122,4 мільярда рублёў.

Меней за ўсіх такіх праблемных прадпрыемстваў на Гродзеншчыне — усяго адно. Траіх даўжнікоў па заробках налічылі на Гомельшчыне. А вось рэкардсмен па колькасці прадпрыемстваў, якія не разлічваюцца з уласнымі работнікамі, — Міншчына. Тут прадпрыемстваў-даўжнікоў больш за сотню. Гэта пераважна сельскагаспадарчыя прадпрыемствы.

ДЫПКУР'ЕР

## *Новая дата адмены віз у Ізраіль — красавік 2015 года*

Учора парламент Беларусі ратыфікаваў пагадненне з Ізраілем аб адмене віз. Але запрацуе яно не раней за красавік 2015 года, заявіла намеснік міністра замежных спраў Беларусі **Алена Купчына** на пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў. Яна патлумачыла, што для гэтага патрэбна, каб ободва бакі на працягу 2014 года завершылі ўнутрыдзяржаўныя працэдуры па ратыфікацыі. Купчына паведаміла, што ізраільскі парламент ужо разгледзеў пытанне аб ратыфікацыі, далей павінна быць рашэнне МУС Ізраіля, зацверджанае ўрадам.

Амбасадар Ізраіля ў Беларусі **Ёсеф Шагал** лічыць, што пасля адмены віз паміж дзвюма краінамі паток ізраільскіх турыстаў у Беларусь павялічыцца.

## *Беларусь зачыняе пасольства ў Лівіі*

Згодна з пастановай урада №1137 ад 4 снежня, амбасада павінна быць зачынена ўжо да 31 снежня. Пра гэта паведаміла прэс-служба ўрада. Сітуацыя ў Лівіі застаецца складанай. Беларускія дыпламаты былі эвакуіраваны з Трыпалі яшчэ ў жніўні гэтага года. Аднак закрыццё амбасады — крайні крок, які сведчыць пра тое, што надзей на нармалізацыю супрацоўніцтва няма. Па крайняй меры калі была вайна ў Іраку, то беларускае пасольства спыняла працу, але не зачынялася канчаткова.

---

ПАДЗЕЯ

*Валянцін СТЭФАНОВІЧ:*

## *«Наступны год будзе няпросты для ўсіх нас»*

*10 снежня прайшоў Міжнародны дзень правоў чалавека.*

У гэты дзень праваабаронцы прэзентавалі гадавую справаздачу па маніторынгу месцаў прымусовага ўтрымання ў Беларусі.

Выступаючы падчас прэзентацыі справаздачы, яе аўтар **Павел Сапелка** адзначыў, што ў даследаванні надавалася пэўная ўвага праблеме катаванняў у месцах пазбаўлення волі.

*"Паводле вынікаў маніторынгу мы прыйшлі да высновы, што ў месцах зняволення ў Беларусі ўжываюць катаванні, а таксама жорсткае і зняважлівае абыходжанне*, — сказаў ён. — *І такія выпадкі не расследуюцца аб'ектыўнай і незалежнай інстанцыяй. Акрамя калоній і турмаў, у Беларусі існуе шэраг установаў, утрыманне ў якіх варта прыраўняць да пазбаўлення волі. Як папраўчыя ўстановы, так і іншыя месцы несвабоды падлягаюць вываду з падпарадкавання Міністэрству ўнутраных спраў. Таксама мы зрабілі выснову аб тым, што грамадскі кантроль за месцамі зняволення ў Беларусі фактычна адсутнічае, а дакладней — адсутнічаюць рэальныя магчымасці такога кантролю. Таксама ў нас недастатковая заканадаўчая база для гэтага. На практыцы і ў заканадаўстве існуе дыскрымінацыя зняволеных у працоўнай і сацыяльнай сферах".*

Павел Сапелка прызнаў, што ў праваабаронцаў абмежаваны магчымасці, каб уплываць на сітуацыю ў месцах прымусовага ўтрымання ў поўнай меры, аднак ёсць магчымасць рабіць такія факты публічнымі і прапаноўваць дзяржаве прымаць пэўныя захады па выключэнні такіх парушэнняў, паведамляе spring96.org.

Дарэчы, акцыі, прысвечаныя Міжнароднаму дню правоў чалавека, прайшлі па ўсёй краіне. У цэнтры Мінска актывісты раздавалі людзям Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека і інфармацыйныя буклеты па праблеме смяротнага пакарання, у Брэсце адбыўся пікет, на якім узгадвалі палітзняволеных. Салігорскія праваабаронцы спрабавалі атрымаць ад мясцовых улад копію рашэння, згодна з якім у пікеце ім было адмоўлена...

Таксама аргкамітэт Нацыянальнай прэміі беларускіх праваабаронцаў назваў імёны сёлетніх лаўрэатаў. Праваабаронцам года прызнана Алена Танкачова, адвакатам — Людміла Казак, у галіне журналістыкі перамогу атрымалі Алена Панкратава і сайт зачыненага ўладамі праваабарончага цэнтра "Вясна".

### ДАРЭЧЫ

"Вясноўцы" пачынаюць цыкл відэапраграм "Кухня TV". Кухня стане пляцоўкай для сустрэч прыхільнікаў і аднадумцаў, для шчырых і набалелых выказванняў.

"Кухня TV" — гэта своеасаблівыя "круглыя сталы" з удзелам беларускіх праваабаронцаў, прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасці, абмеркаванні найбольш актуальных і наспелых у грамадстве пытанняў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### КАМЕНТАРЫЙ ПА СПРАВЕ

— У гэтым годзе сітуацыя з правамі чалавека знаходзілася ў стане кансервацыі, — кажа праваабаронца **Валянцін СТЭФАНОВІЧ.** — Нельга сказаць, што адбываліся нейкія масавыя рэпрэсіі, але ўвесь негатыў, які быў у мінулыя гады, застаўся і зараз. Напрыклад, беспадстаўныя затрыманні сталі своеасаблівым метадам палітычнага пераследу, і падчас хакейнага чэмпіянату ў Мінску гэта было яскрава прадэманстравана. Акрамя таго, адбыўся шэраг выпадкаў, якія дазваляюць казаць аб пагаршэнні сітуацыі з правамі чалавека. Гэта і "справа Рубцова", і новая крымінальная справа ў дачыненні да палітвязня Мікалая Дзядка, і ціск на журналістаў... Зараз пачалася кампанія па барацьбе з дармаедамі, падчас якой чыноўнікі таксама нярэдка забываюцца, што ў кожнага чалавека ёсць правы, якія гарантуюцца яму Канстытуцыяй. Усё гэта — трывожныя тэндэнцыі. Асабліва, калі ўлічваць, што наступны год будзе годам прэзідэнцкіх выбараў.

**— Тэма палітзняволеных таксама застаецца актуальнай...**

— Безумоўна. Вызвалены Васіль Парфянкоў, хутка выйдзе на волю Эдуард Лобаў, але гэтыя вызваленні звязаны выключна з заканчэннем тэрмінаў зняволення. Лаяльнасць улады тут ні пры чым. Але ж многія палітвязні (у тым ліку і былы кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч) яшчэ ў турмах, і патрабаванні беларускай і міжнароднай грамадзянскай супольнасці па-ранейшаму застаюцца нявыканымі. Гэта вельмі засмучае.

**— Чаго вы чакаеце ад года наступнага?**

— Можа, пабольшыцца ўзровень рэпрэсій. Думаю, што мы будзем сутыкацца з беспадстаўнымі затрыманнямі напярэдадні выбараў, іншымі метадамі. Год будзе няпростым для ўсіх нас...

